**Без песні — хоць трэсні!**

### ЛЯ КРЫНІЦЫ



*Верш і музыка*
*Янкі Насуты*

Ой, ляцелі гусі
Ранíцою з броду.
З чыстае крыніцы
Брала Вера воду.

На кані буланым
Цераз луг-даліну
Ехаў хлопец сцежкаю,
Папрасіў дзяўчыну:

— Любая дзяўчына,
Чараўніца-дзеўка,
Напаі каня мне
З поўнага вядзерка!

— Пажамы, каханы,
Зачарпнуць з крыніцы.
Хіба ж для буланага
Мне шкада вадзіцы?

Чэрпаў хлопец воду
Для каня, для Веры.
Бачыла ўсё маці,
Прыадкрыўшы дзверы.

Ой, ляцелі гусі
Зноў да свайго броду.
У хлопца закаханая
Несла Вера воду.

(Ганарар на Музей)



# НІЎКА

### ПРЫДУМАЦЬ ПРЫЧЫНУ

— Пеця, ты, напэўна, ведаеш, што трэба зрабіць, каб звярнуцца да настаўніцы і папрасіць у яе дазволу выйсці з класа?

— Трэба прыдумаць прычыну.

### ЦІКАЎНЫ

— Мікола, — звяртаецца сусед да суседа, — у цябе такія вялікія вусы. Яны не перашкаджаюць есці ці піць?

— Пачастуй — пабачыш, — адказаў той.

### СУЧАСНАЕ КАХАННЕ

Сядзяць увечары пад вярбою двое закаханых. Яна яго пытае:

— Мілы, ты мяне кахаеш?
— Вельмі!
— А пасля вяселля ты мне, як і цяпер будзеш падарункі рабіць?
— Вядома.
— І купіш мне імпартныя боцікі?
— Угу.
— І такі кажушок, як у Алесі?
— Угу.
— І залаты гадзіннік?
— Мабыць, не. Бацькі мне столькі грошай не дадуць.



— Раз... два... узялі! Раз... два... узялі!

### ПРЫГОДЫ ЗАДРЫПКОЎСКАГА

— Нядаўна я ледзь не памёр ад страху, — гаворыць пан Задрыпкоўскі сваім сябрам у адной кампаніі. — Уявіце сабе, іду я лесам і раптам бачу — змяя!

— І што?! — ускрыквае адна з жанчын.

— Нічога. Прыглядзеўся лепей і ўбачыў, што гэта ўсяго толькі звычайная палка.

— Не разумею, чаму вы ў такім выпадку спужаліся? — пытае тая ж дама.

— Таму, што палка, якую я схапіў, каб забіць гэту жывёліну, аказалася змяёй!



**Ён заўсёды там, дзе цяжка, але нікому ад гэтага не лягчэй.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Слуга** (суседу свайго гаспадара): — Містэр Джонс перадае вам прывітанне і просіць паведаміць, што ён застрэліў свайго сабаку, які выццём і брахaннем не даваў вам спаць.

**Сусед:** — Перадайце маю ўдзячнасць містэру Джонсу і спытайце яго, ці не будзе ён так ласкавы, каб атруціць яшчэ сваю дачку ці хоць бы спаліць яе піяніна.

*

У аўтобусе малады чалавек уступае сваё месца пажылой даме:

— Сядайце, мадам.

— Дзякую, мсье, сядзіце. Яшчэ настаіцеся, калі састарэецеся.

*

— Якія прыгожыя ў вас зубы, фрэкен!

— Гэта спадчына маёй маці.

— Як здорава, што яны вам падышлі!

**Баечкі**

### ВЫХАВАЎ

Пры дзецях з лаянкаю
брyднай
На ўсіх кідаўся наш Яўхім.
А сёння заўважаюць людзі:
Які Яўхім — такі і сын.

### РУКА

Напэўна, здзівіцеся вы:
Як дацягнуўся слуп да неба?
Хаця ён быў без галавы,
Затое — меў руку, дзе трэба...

**Сяргей Дзерышаў**

**З „Весніка Задрыповіі"**

### ЗА ЗДАРОВЫ БЫТ

Двойчы была аштрафавана за самагонаварэнне жыхарка вёскі Альховыя Ночкі Тацяна Мармыль. Суровыя меры сябе поўнасцю апраўдалі. Цяпер Таццяна Мармыль гоніць выключна безалкагольны самагон.

### ПАРАДЫ ПАЛЯЎНІЧЫМ

Калі ў патроны са шротам пакласці соль, перац і лаўровы ліст, то пры гатаванні дзічыны можна абысціся без гэтых спецый.





### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

— Гавораць, наш дырэктар рыхтуе вялікае скарачэнне кадраў...

— Нас гэта не датычыцца. Ён пасварыўся з жонкай і хоча цяпер звольніць усіх яе сваякоў.



# КУРЁЗЫ

### ПАКАРЭННЕ МАНБЛАНА

Не так даўно споўнілася 200 год пакарэння Манблана. На самым Манблане і дзесяці найбліжэйшых вяршынях была наладжана ілюмінацыя. Ігралі аркестры. Спартсмены выконвалі акрабатычныя трукі — напрыклад, спуск з гары на адной лыжы. Ля падножжа гары бойка гандлявалі хусткамі з фігурамі першых герояў, якія ўвайшлі на Манблан — самую высокую гару Еўропы.

За два стагоддзі Манблан бачыў шмат рэкордаў. У апошнія гады іх таксама нямала. У 1975 годзе — спуск на лыжах за 8 гадзін 10 мінут (замест звычайных 15 гадзін.) У 1955 годзе на вяршыню упершыню прызямліўся верталёт Праз шэсць год на яе спланіравалі трое парашутыстаў. У 1973 годзе — першы палёт на дэльтаплане з даху Еўропы. У 1984 годзе — спуск на ровары. А потым і ў пузыры з пластыку. У гонар юбілейнага года італьянскі альпініст прагацяваў на вяршыне 40 дзён.





**Калі лаўры не даюць спаць, звярніся да лекара.**